© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# 10-ыя Ўгодкі ад Заснаваньня Парафіі Св. Духа ў Дэтройце

5га чырвеня 1977 году, Парафія Сьвятога Духа БАПЦ у Дэтройце сьвяткуючы сваё парафіяльнае сьвята, адзначала таксама 10тыя ўгодкі існаваньня Парафіі.

Да гэтага Вялікага Сьвята настаяцель і парафіяне рыхтаваліся вельмі салідна. Закончылі ўпрыгожваньне Іканастасу й памалявалі царкву, зь сярэдзіны.

Урачыстую Архірэйскую Літургію служыў Высокапрэасьвяшчэньнейшы Архіяпіскап Мікалай у саслужэньні Настаяцеля нашай Парафіі, айца Максіма, Настаяцеля Парафіі Жыравіцкай Маці з Клівэлэнду, айца Грыгора, і Протадзіякана а. Міхася Страпко. Прыслугоўвалі: Язэпка Сажыц, Валодзя Катовіч і Віктар Бакуновіч. Надзвычайна прыгожа й памастацку сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам Сп. В. Спісарчука. На заканчэньне Багаслужбы хадзілі з працэсіяй кругом царквы, адслужылі малебень і ўсе паўшы на калені адсьпявалі „Магутны Божа".

Пасьля Царкоўнай Урачыстасьці, усе прысутныя сабраліся ў царкоўнаграмадзкай салі на банкет. Пасьля абеду пачалася Акадэмія. Сп. Мгр. Васіль Плескач, старшыня нашай Парафіяльнай Рады, прывітаў Уладыку Мікалая, айца Грыгора, айца Несьцяра Столярчука з Украінскай Катэдральнай Царквы й айца Протадзіякана Міхася з Клівэлэнду. Далей прывітаў і прадставіў: старшыню клівэлэндскай беларускай Парафіяльнай Рады, Сп. К. Калошу й другіх дарагіх гасьцей з Клівэлэнду, як Спю. К. Каляду, Сп. А. Стрэчаня, які фактычна быў „архітэктам" і безінтэрэсоўна шмат працы ўлажыў у пабудову нашага надзвычайна прыгожага Іканастасу. Вітаныя былі таксама зь вялікім энтузыязмам госьці з Торонто, Сп. Кірка – старшыня параф. Рады, Сп. К. Акула, й іншыя, госьці Украінцы з дзьвех іхніх парафіяў на чале са старшынямі Парафіяльных Радаў п. п. Фэдорэнко й Шаршун. Прадстаўнікі й дастойныя госьці з свайго боку віталі нас і складалі пажаданьні.

Др. Язэп Сажыц у сваім кароткім але цікавым рэфэраце, зрабіў гістарычны перагляд, як разьвівалася царкоўнае бел. жыцьцё ў Дэтройце й як дайшло да заснаваньня першай беларускай парафіі ў Мічыгане. Ужо ў 1952м годзе наведаў Беларусаў у Дэтройце сьв. пам. Уладыка Васіль. Была адслужана, нашым правячым Япіскапам беларуская Багаслужба ў вялікай пратэстанцкай Царкве. На гэтай урачыстасьці прысутнічала шмат Беларусаў з нашае т. зв. „старой эміграцыі", дзякуючы паведамленьню й артыкулу пра Беларусаў у Мічыгане, зьмешчаным у мясцовай амэрыканскай прэсе. Пазьней, дзякуючы „місіянерскай працы" айца Міхася (сяньня Уладыкі Мікалая), які прыяжджаў да нас з Торонта, часта адбываліся беларускія Багаслужбы ў Дэтройце ў прыватных бел. дамох, або ў Украінскай Царкве, а таксама выконваліся Ім царкоўныя Трэбы для нашых сем'яў, якія гэтага жадалі. Урэшце, 5га травеня 1967 году, на агульным арганізацыйным сходзе была выбраная першая Парафіяльная Рада й „афіцыяльна" заснованая Парафія БАПЦ імені Сьв. Духа ў Дэтройце.

Пры гэтай нагодзе дакладчык зь вялікім разчуленьнем і сэнтымэнтам, прачытаў цікавы дакумэнтальны ліст аб Багаславенстве й Зацьверджаньні нашай Парафіі ад правячага Япіскапа, пакойнага Архіяпіскапа Васіля. Багаславенства й малітвы нашага дарагога, пакойнага Архіпастыра, відаць былі мілыя й ўгодныя Госпаду Богу, бо парафія Сьв. Духа ў Дэтройце пачала хутка разьвівацца й мацнець.

За пару гадоў ужо прыдбалі сваю Царкву (будынак), а потым і парафіяльны дом для настаяцеля.

Першым сьвятаром ў нашым Прыходзе быў а. Хведар, але нажаль, з прычынаў матар'яльных (меў вялікую сямью) быў змушаны шукаць больш платную працу.

Пасьля а. Хведара, на працягу больш аднаго году, нам Прыход ачольваў Япіскап Мікалай.

Сёньня Настаяцелем Прыходу Сьв. Духа ў Дэтройце ёсьць а. Максім. Усе парафіяне любяць і паважаюць а. Максіма, таксама як і а. Максім з запраўднай хрысьціянскай любоўю адносіцца да сваіх вернікаў.

Пры гэтым рэфэрэнт зазначыў, што наагул сіла й сьветлая будучыня нашай Сьв. БАПЦарквы знаходзіцца ў тым, што нашыя Архіпастары й Сьвятары слхжаць Богу й нам толькі з перакананьня ў сьвятую справу й пасьвячэньня, а не з матэр'яльных карысьцяў.

На заканчэньне Др. Сажыц яшчэ раз падзякаваў Архіяпіскапу Мікалаю й прысутным беларускім сьвятаром за іх адданасьць і працу для БАПЦ, а таксама фундатарам, ахвярадаўцам і будаўнікам царквы Сьв. Духа ў Дэтройце кажучы: „выбачайце, што ня буду пералічваць усіх і хваліць хто сколькі ахвяраваў ці зрабіў для нашай Царквы, бо заўсёды можна памыліцца, кагось перацэньваючы, а каго недаацаніўшы."

*–Дэтройцкі*

### Ліст ад Архіяпіскапа Вsіля:

14га травеня 1967

ІХ МІЛАСЬЦЯМ
Спадаром Др. Язэпу САЖЫЦУ, Старшыні, МікалаюПРУСКАМУ, Сакратару, Мікалаю КУМЭЙШЫ, Царкоўнаму Старасьце, і Юрыю МАЗУРО, Скарбніку, Парафіі імя СЬВЯТОГА ДУХА нашае Сьв. БАПЦарквы
Ў ДЭТРОЙЦЕ

БАГАСЛАВЕНСТВА
Й ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНЕ

Сьвятая Царква Хрыстовая гэта аснова Царства Божага на зямлі, таму кожная нашая Парафія гэта цаглінка ў будове Яго. Вось чаму й Вашая новая Парафія нашае Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Дэтроіце мілая нашаму Пастыраначальніку Госпаду Богу й Спасу Ісусу Хрысту, Богу Духу Сьвятому, бо яна будзе служыць на Славу Яму, і на дабро й радасьць Вам, нам усім і ўсяму нашаму пакутнаму й Вялікаму Беларускаму Народу.

Дзеля гэтага Мы, як Ваш правячы Епіскап, зь вялікаю радасьцю хвалім гэты Ваш слаўны чын, і

БАГАСЛАЎЛЯЕМ Вашую Парафію, і

ЗАЦЬВЯРДЖАЕМ Вашую ХВАЛЕНУЮ ЦАРКОЎНУЮ РАДУ.

Госпадзь Бог наш ДУХ СЬВЯТЫ, Бог АЙЦЕЦ, і Бог СЫН няхай прабываюць з Вамі й багаслаўляюць Вас, сямейкі Вашыя й усіх вернікаў Вашае Парафіі.

З малітвамі й любоўю ў Госпадзе,
Ваш
+Архіепіскап Васіль

* * *

# НОВЫ ДЫЯКАН Б.А.П.Ц.



*а. Др. Расьціслаў Войтэнка*

Сёлета, 15га чырвеня Доктар Права, Спадар Расьціслаў Войтэнка быў рукапаложаны ў сан Дыякана БАПЦ. Акт рукапалажэньня выканаў Яго Эмінэнцыя Мітрапаліт Андрэй, пры перапоўненай вернікамі царкве Жыравіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парку, Н. Дж.

Характэрна, што ў гэтай самай царкве, Жыравіцкай Божай Маці працаваў раней вікарным сьвятаром а. Віктар Войтэнка, ягоны бацька, а яшчэ раней, Ягоны дзед, Мітрафорны Пратаірэй а. Сьцяпан Войтэнка, які быў і Настаяцелем гэтага Прыходу.

Зусім зразумела, што пасьвячэньне маладога адваката, Доктара Права, ў духоўны сан, зрабіла глыбокае ўражаньне ды выклікала шчырае задаваленьне ўсей беларускай каленіі з нагоды далучэньня, да ліку духоўнага пэрсаналу, яшчэ аднаго сьвятара.

У сваёй прамове, на банкеце, а. Расьціслаў сказаў, што будзе выконваць сьвятарскія абовязкі як найлепш, ды адначасна паабяцаў супрацоўнічаць з моладзьдзю па лініі царкоўнага ўзгадаваньня.

„Канчаючы сваю кароткую прамову", сказаў айцец Расьціслаў, „я хочу верыць, што маё рукапалажэньне ўключае ў жыцьцё нашай царквы яшчэ адзін элемэнт, элемэнт амаладжаньня, а адначасна з гэтым, запэўненьне цягласьці жыцьця Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы наагул." *– М. Гарошка*

# Ледавіковыя пэрыяды палучаныя з арбітай зямлі

Больш як сто гадоў таму, І. Крол даводзіў, што ледавіковыя пэрыяды на зямлі, палучаныя з зьменамі руху зямлі навокал свае восі й навокал сонца. У дадатак да штодзённага абароту зямлі навокал свае восі й гадовага абароту навокал сонца, ёсьць яшчэ тры аснаўныя пэрыядычныя рухі: (1) прэцэсія зямной восі (зьмена кірунку восі) з пэрыядам 21 000 гадоў, (2) зьмена нахіленьня восі да плошчы арбіты з пэрыядам 41 000 гадоў і (3) зьмена формы арбіты (эліпсы) з пэрыядам 92 000 гадоў. Усе тры зьменныя рухі разам выклікаюць зьмены ў колькасьці цяпла якое падае на зямлю з сонца, і таму, Крол прапанаваў, што яны пэрыядычна выклікаюць ледавіковыя пэрыяды на зямлі. Аднак довадаў, якія-б падтрымалі тэорыю Крола, у той час ня было, а пазьней, у 1909 г., гэтая тэорыя аказалася як-бы неправідловая, калі нямецкія дасьледчыкі, разкопваючы ледавіковыя асадкі ў Альпах, маглі знайсьці довады толькі на чатэры ледавіковыя пэрыяды, кожны ад 100 000 да 200 000 гадоў даўжыні, і што апошні ледавіковы пэрыяд канчыўся 25 000 гадоў таму.

У гадох 1920, 1930 і 1928 М. Мілянкевіч (Югаслаў) друкаваў свае працы й аблічэньні (без кампютара) пра ўплыў вядомага руху зямлі на зямны клімат. Згодна Мілянкевіча, за мінулых міліён гадоў мелася быць не толькі некулькі а 25 аснаўных кліматычных зьменаў (ледавіковых пэрыядаў) на зямлі.

У 1950х гадох дасьледчыкі прыйшлі да высnаву, што найлепшы спосаб даведацца колькі ледавіковых пэрыядаў было й калі, гэта з раскопкаў асадкаў на дне Мора. Дно мора безупынна пакрываецца шкілетамі мікраскапічных арганізмаў (1/2 мм. вялічыні) каторыя потым уключаюцца да марскіх асадкаў якія растуць слаямі, прыблізна па 2.5 цм. на тысячу гадоў. Кіслярод у шкілетах гэтых арганізмаў складаецца з двух стабільных (не радыяактыўных) ізатопаў, $O^{16}$ і $O^{18}$, прапорцыя каторых залежыць ад кліматычных абставінаў у той час, калі гэтыя арганізмы жылі. У першую чаргу, пры нізкай тэмпэратуры, больш цяжэйшага ізатопу пападае ў вапна й шкілет арганізму. Па другое, падчас ледавіковага пэрыяду шмат вады паруе з мора й ператвараецца ў ледавікі, а ў пару з большай магчымасьцяй пападае лягчэйшы ізатоп кіслароду. У выніку гэтага, канцэнтрацыя цяжэйшага ізатопу кіслароду значна павялічваецца ў моры і ў шкілетах арганізмаў падчас ледавіковай пары. Згодна з гэтым мэтадам, выкопваюцца асадкі з дна мора й мераецца прапорцыя ізатопаў кіслароду ў шкілетах знойдзеных на розных глыбінах асадкаў.

У такі спосаб у 1950 годзе Ц. Эміліяні (Амераканец) мог зьмераць кліматычныя зьмены на зямлі, якія ў бальшыні пагаджаліся з аблічэньнямі Мілянкевіча, бяз розьніцы, дзе й у якім акіяне гэтыя асадкі былі выкапаныя. Эміліяні, аднак, быў абмяжованы недакладнасьцяй акрэсьляньня часу адлажэньня асадкаў. Ен карыстаўся мэтадам радыяактыўнага вугля які дастаткова акуратны толькі да 40 000 гадоў.

Гэтыя досьляды былі паўтораны з большай дакладнасьцяй Шаклетонам і памочнікамі (Амэрыканцамі) два гады таму й ізноў нядаўна. Для лепшага акрэсьляньня часу ў далёкім мінулым, яны выкарысталі факт, што 700 000 гадоў таму магнетычнае поле зямлі зьмяніла свой кірунак. Кірунак магнетычнага поля зарэгістраваны ў магнетычных мінэралах у асадках, якія яны выкапалі разам з шкілетамі мікраскапічных арганізмаў.

Шаклетон мог паказаць з ягоных практычных досьледаў, што клімат зямлі й ледавіковыя пары маюць тры аснаўныя пэрыяды: 23 000 гадоў, 42 000 і 100 000 гадоў якія добра, хоць ня зусім дакладна, пагаджаюцца з вядомымі пэрыядычнымі рухамі зямлі. Уплыў першага пэ-

*працяг на 4–й бачынцы*

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018


# ХТО І ДЗЕЛЯ ЧАГО?

21га травеня 1977 году адбыўся ў Мастацкім Цэнтры ў Ню Джэрзі, Беларускі Народны Фэстываль, наладжаны стараньнем адмыслова створанага камітэту й выкананы працаю шматлікіх артыстычных удзельнікаў і вялікай колькасьці тэхнічных працаўнікоў.

Спадзяюся, што дакладнае апісаньне самога Фэстывалю знойдзецца на іншым месцы гэтай газэты, ці мо' ў іншай газэце, а я тут хачу заняцца друкаванай праграмай Фэстывалю.

Унутры вокладкі праграмы Фэстывалю знаходзіцца прывітальная адозва старшыні арганізацыйнага камітэту фэстывалю Др. Вітаўта Кіпеля. Адозва напісана коратка, ясна й палітычна пісьменна, бо пералічае галоўныя месты Беларусі, незалежна ад таго пад якой акупацыяй яны знаходзяцца; пералічаючы сярод местаў Беларусі Вільню, Смаленск, Берасьце, аўтар адозвы як бы вызначае граніцы Беларусі, хаця трэба сказаць, што ў пералічэньні выразна чуецца нястача Дзьвінска.

Прачытаўшы адозву В. Кіпеля, тым больш неспадзеўкай было пабачаньне на апошняй старонцы вокладкі, карты Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Я не хачу ўваходзіць у тое, ці наагул была патрэба зьмяшчаць карту савецкай рэспублікі, але справа ўскладняецца тым, што пад картаю БССР знаходзіцца ў ангельскай мове напіс – „Беларусь".

Незалежна нават ад палітычнага падыходу, гэткую камбінацыю карты з напісам, можна й трэба назваць ашуканствам, ашуканствам з зусім выразным палітычным абсурдам, дзеля таго што паняцьці БССР і Беларусь, гэта паняцьці ня толькі розныя, але варожыя й супроцьстаўныя. Памінаючы ўжо тое, што твор пад назовам БССР, гэта расейская калёнія, а не дзяржава Беларускага Народу, нават тэрыторыя гэтай калёніі не абымае ўсяе Беларусі й не абымае многіх тых местаў пералічаных у адозве В. Кіпеля.

Савецкая ( разумей расейская ) прапаганда ўвесь час даводзіць, што БССР і Беларусь – гэта тое самае й што ніякай Беларусі паза межамі БССР няма. Я зусім добра разумею чаму гэтак робяць Саветы, але мяне дзівіць чаму заіснавала для некага патрэба, за беларускія грошы рабіць савецкую прапаганду. Хацелася-б даведацца ад удзельнікаў арганізацыйнага камітэту хто за гэта адказны?

Калі-б удзельнікі арганізацыйнага камітэту фэстывалю не захацелі-б даць у гэтай справе вызьненьні, дык трэба было-б у будучыні, калі ня будзе запэўненьня, што палітычнае шкоджаньне не паўторыцца, заклікаць грамадзтва да байкоту Фэстывалю, бо мясцовыя палітычныя карысьці не патрапяць зраўнаважыць агульнай палітычнай шкоды.

Некаму можа здавацца, што гэта толькі недагляд, недасьветчанасьць, ці палітычная няграматнасьць, але выглядае, што ў гэтым шаленстве ёсьць мэтода, відаць наперад некім зь некім ўзгодненая, бо ў інтэрвью перад тэлевізыйным апаратам Сп. Уолтэр Станкевіч водзячы пальцам па такой самай павялічанай карце, як у праграме, ізноў гаварыў аб БССР, як аб Беларусі.

Выкажэцеся Спадарове, каб было больш ясна хто, зь кім і куды нас хоча цягнуць.

– Л. Галяк

# Я. ЮХНАВЕЦ

### У ТУЮ НОЧ

*У тую ноч я быў адзін у полі*
*пад крыжам схіленым, сівым.*
*Ноч плыла нада мною моўкна,*
*і ўсходзіў месяц спакваля.*
*А зьнічкі, зрэднікі вышыняў,*
*секлі небасхіл агнём.*

*У сьпелым жыце чуў, як сьцежку*
*сьвяты Мікола пражынаў.*
*І плач у воддалі: – О, любы,*
*на якой вярсьце прыстаў?*

*А ноч плыла, плыла і моўкла*
*і над крыжам і над усім...*
*У кажнай болесьці жыцьця зарука, –*
*ах, шмат балючага ў ціхім!*

1952

* * * *

*Я не хачу згубіць што ня раз гублялася –*
*нявольнік я сваёй душы, –*
*кляцьбой жыве яно*
*губляецца*
*у гордасьцях услаўленых варагоў.*

*Як птушка тая ў гнязьдзе адседжваешся –*
*прабачлівы нявольнік я, –*
*лягчэй сабе ня робіш...*
*Зьмяншаецца*
*тое, што любіў маленцам пакараным*
*у гордасьцях настаўнікаў усялякіх.*

*І вось памалу, сваёй мальбой ахрышчаны,*
*яшчэ нявольнік я,*
*скранаю жарсна жыцьцёвыя спалохі;*
*як скарб багаты, ціхату дзялю –*
*спагады і цуды непакорнага*
*раздаю правадыром усякім.*

*Яшчэ нявольнік я. –*
*Я дуэліст непаваротлівы –*
*кляцьбой жыве яно.*
*І ўночы, вецер, бы рассыпісты,*
*цярпліва сьняцца сны:*
*– Ты ёсьць, ты ёсьць.*

* * * *

*Вятры падзьмуць і ветракі ізноў*
*зачэпяць крыламі скрыгат жорнаў.*
*З воддалі лугоў жалейкі сьпеў,*
*бы дзявочы смутак і сорам.*

*Сьпеў ручуём імкне ў прасьцяг нябёсаў,*
*але шчыра нікне ў затуле пушчаў,*
*між стваловым імшыстых і выварат'яў каранастых,*
*каб вецер зноў іх там спаткаў*
*і шорахам жывым між галінаў шастаў.*

*Сухавеям зноў падзьмуць вятры.*
*Уздымуць пыл дарожны, і скалынуць на полі збожжа,*
*асьцюдзяць твар ад працы запацелы,*
*смутны сьпеў жалеяк у далаве разьвеюць...*

*Ах, не! Смутак благасьцям жыцьця паможа!*

# Гісторыя Нарбута

Гісторыя каждага народу ў першую чаргу, пішацца сваімі людзьмі, сваімі гісторыкамі; наадварот, гісторыя народу, напісаная ягонымі суседзямі – ніколі ня можа быць аб'ектыўнай.

Да гэтага часу мы ведаем толькі адзінага гісторыка, Літоўца (Беларуса), Хведара Нарбута, які ў сваёй манумэнтальнай працы *Гісторыя Літоўскага Народу*, выданай у 1835–1841 гадох, апісаў дзеі свайго народу аж да Вуніі 1569 г. *Гісторыя Літоўскага Народу* (Беларускага) гэта – 9-ці томная праца; мае больш 5000 бачынак друку. Хведар Нарбут кажа ў сваёй прадмове, што ягоная праца была вынікам 30-ці годняй дасьледчай працы.

Жадаючыя бліжэй запазнацца з *Г.Л.Н.* Нарбута, просім зьвяртацца да Сп. Др. П. Маркоўскага. Ягоны тэлефон: (201)249–2255. Жадаючым Др. Маркоўскі можа выпазычыць копіі кнігаў Хведара Нарбута.

Рэдакцыя газэты *Беларускі Час* ёсьць уласьнікам мікрафільму ўсіх 9-ці тамоў *Гісторыі Літоўскага Народу* Х. Нарбута. Зацікаўленыя, ў справе рэпрадукцыі гісторыі Нарбута (з мікрафільму на паперу), могуць зьвяртацца ў гэтай справе да Рэдакцыі газэты *Б. Час.* – *РЭДАКЦЫЯ Б. ЧАСУ*

# Парафіяльнае Сьвята ў Дораты

Недалёка ад Атлянтык Сіты ў штаце Ню Джэрзі ў Дораты, знаходзіцца прыход Св. Тройцы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Настаяцелям прыходу ёсьць а. Карп Стар.

12га чырвеня г.г. Царква ў Дораты ладзіла сваё Парафіяльнае Сьвята. На гэтую вялікую ўрачыстасьць прыехаў Яго Высокапрэасьвяшчэнства Мітрапаліт Андрэй, парафіяне Сабору Св. Кірылы Тураўскага з Ню Ерку са сваім Настаяцелям Пратаірэям а. Васілём Кэндышам. З Гайланд Парку прыехалі: а. Александар, Настаяцель Прыходу Жыравіцкай Божай Маці, дыякан Доктар а. Расьціслаў Войтэнка й многа парафіянаў.

Слхжбу Божую ачоліў Уладыка Мітрапаліт Андрэй у саслужэньні а. Карпа, а. Васіля, а. Александра, Дыякана а. Расьціслава, Іпадыяканаў: Ю. Драздоўскага, Войтэнкі й прыслужнікаў. Злучаным хорам трох прыходаў кіраваў рэгэнт Сп. М. Тулейка.

Уладыка Андрэй сказаў вельмі глыбокую па зьместу пропаведзь на тэму „Сіла Св. Духа", ў каторай падкрэсьліў, што толькі Сіла Св. Духа дапамагла а. Карпу сарганізаваць у Дораты прыход у так няспрыяльных умовінах.

Падчас Службы Божай Уладыка ўручыў Нагародную Грамату Старасьце гэтага прыходу Сп. Хведару Маліноўскаму за яго вялікую й афярную працу для дабра Прыходу.

Вельмі ўрачыстая Служба Божая закончылася крэсным ходам навокал Царквы й малебнам Св. Тройцы.

Пасьля Службы, усе прысутныя перайшлі да царкоўнай салі на абед, прыгатаваны Сястрыцтвам. Падчас абеду былі прывітаньні й як-найлепшыя пажаданьні для далейшай разбудовы Прыходу. Многа гаварылі аб пабудове ў Дораты царкоўнага цэнтру ды яго значэньне для беларускага грамадзтва.

На абедзе быў Атаман Новай Кубані Іосіф Швэдіў, каторы ў сваёй прамове вельмі дзякаваў нашаму Мітрапаліту за тое, што падчас Службы Божай Уладыка памінаў „многапакутны казацкі народ". Атаман сказаў: „Ніхто й ніводная Царква праваслаўная, апрача беларускай, не памінае Казакоў у сваіх малітвах." Гэтыя словы Атамана выклікалі вялікае ўражаньне на прысутных.

Падчас абеду адбылася лётарэя, добра й з гумарам праведзеная Сп. М. Войтэнкам.

Доўга яшчэ пасьля абеду прысутныя гаварылі й дзяліліся сваімі ўражаньнямі. Атмасфэра Сьвяткаваньня была запраўды вельмі прыемнай.

Госьці, пакідаючы Дораты, выказвалі якнайлепшыя пажаданьні для Гаспадароў, і арганізатараў абеду ды абяцалі ізноў адведаць Дораты.

– Л. Аскачынская



*Хведар Маліноўскі, Стараста Прыходу Св. Тройцы, атрымлівае Нагародную Грамату ад Мітрапаліта Андрэя*

© PDF: Kamunikat.org 2018
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Парафіяльнае Сьвята Жыравіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парк

Парафіяльнае сьвята парафіі БАПЦ ў Гайлэнд Парк, Н. Дж. адбылося ў нядзелю 15 травеня сёлета. На гэтую ўрачыстасьць прыбылі: Высокапрэасьвячэнныя, Мітрапаліт Андрэй і Архіепіскап Мікалай, Прат. Васіль Кендыш, Прат. Карп Стар, парафіяне Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага з Ню Ёрку й паасобныя беларусы з іншых штатаў Амэрыкі. Спатканьне Архірэяў адбылося ў гадз. 9:30 раніцы, а Св. Літургія а 10:00 гадзіне. Уваходзячых Уладыкаў віталі: з хлебам і сольлю Стараста Сп. Васіль Стома й у храме Настаяцель Парафіі а. Александар Яноўскі. Божая Служба праходзіла ў глыбокім малітвеным настроі пры прыгожым пяяньні хору пад кіраўніцтвам Сп. Міхася Тулейкі. Перад Літургіяй Уладыка Мітрапаліт Андрэй пасьвяціў адваката Расьціслава Войтэнку ў іпадыякана, а ў часе Літургіі ў сан дыякана. Гэта была неспадзяваная зьява, што малады чалавек з дактаратам права ўступіў на шлях ахвярнае службы ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве, як прыклад для іншых нашых беларусаў, якія таксама маглі-б зрабіць тое самае, каб папоўніць рады нашага сьвятарства.

Пасьля Св. Літургіі быў адслужаны малебен з крэсным ходам вакол Храму Божае Маці.

Пасьля сканчэньня набажэнства адбыўся супольны абед у залі пад царквою, падчас якога выступалі з вітальнымі прынагоднымі прамовамі: Мітрапаліт Андрэй, Архіепіскап Мікалай, Пратаірэй Васіль Кендыш, Пратаірэй Карп Стар, а. Александар Яноўскі, Дыякан Расьціслаў Войтэнка, Старшыня Пар. Рады СаборуСв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне Інж. Мікола Гарошка, Др. Вітаўт Кіпель, Сакратар Мясцовай Пар. Рады Інж. Васіль Русак і Сп. В. Стома.

Мілай неспадзеўкай для прысутных было выступленьне гасьцей з далёкай Аўстраліі, Сп-ва Аўгеня й Надзеі Грушаў. Сьпярша Сп. Груша прадэклямаваў гумарыстычны верш, а пасьля дуэтам, г. зн. са Сп-няй Груша выканалі народную песьню „Ручнікі". Прысутныя ўзнагародзілі іх гучнымі воплескамі й сьпевам – „Сто год", а таксама пажаданьнямі шчасьлівага павароту ў Аўстралію.



*Міхась Сільвановіч атрымаў Нагародную Грамату за ахвярную працу для свайго Прыходу*

На заканчэньне была разыграна лётарэя якая прынесла некалькі дзесяткаў дадатковых даляраў у касу Пар. Рады.

Банкет закончыўся супольнай малітвай і запросінамі а. Карпа на падобнае сьвяткаваньне ў ягонай Парафіі ў Дораты, Ню Джэрзі.

# Агульны Зьезд З.Б.К.

26ты Агульны Зьезд Сяброў і Дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў Канады адбыўся 7га травеня, 1977 у Беларускім Рэлігійна - Грамадзкім Цэнтры пры 524 Ст. Клярэнс Авэ., у Таронце.

Зьезд, які адкрыў старшыня уступаючай Галоўнай Управы ЗБК Сп. В. Касьцюкевіч, пачаўся адсьпяваньнем малітвы „Беларусь наша Маці Краіна."

Мандатная Камісія ў складзе Сп. Сп. М. Буцькі, К. Акулы й М. Ганька праверыла мандаты й прызнала Зьезд правамоцным. Мандатная Камісія правяла выбары Прэзыдыюму Зьезду, у які бальшынёй галасоў, былі выбраны: Др. Б. Рагуля – старшыня, Сп. М. Ганько – сакратар, Сп. М. Буцька – сябра.

Пратакол 25га Зьезду быў прыняты з папраўкамі. Зьезд праслухаў справаздачы зь дзейнасьці аддзелаў ЗБК – Атаўскага, Судбурскага й Тарантонскага, ды справаздачы сяброў уступаючай Галоўнай Управы й пасьля дыскусіяў справаздачаў уручыў уступаючай Галоўнай Управе абсалюторыюм з падзякай.

Зьезд разгледзіў справы арганізацыйнага й ідэалягічнага характару й прыняў адпаведныя пастановы, зь якіх найважнейшаю была пастанова адзначаньня 60тых угодкаў Першага Ўсебеларускага Кангрэсу й 60тых угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, ня толькі ў Таронце, але й у аддзелах. Каб узгодніць дзейнасьць арганізацыі да цяперашніх абставін, Зьезд унёс некаторыя статутовыя зьмены.

У новую Галоўную Ўправу былі выбраныя: старшыня – Сп. В. Касьцюкевіч, заступнік старшыні – Др. Б. Рагуля, сакратар – Др. Р. Жук-Грышкевіч, скарбнік – Сп. Я. Сурвіла, Сп. М. Ганько – як старшыня Тарантонскага аддзелу ЗБК, Сп. М. Буцька – як старшыня Судбурскага аддзелу ЗБК. (Сп. Я. Сурвіла – старшыня Атаўскага аддзелу выбраны ў Галоўную Управу як скарбнік.) У Наглядную Раду выбраны: Сп. Сп. М. Ганько, Б. Кірка й Н. Сільвановіч. У Сяброўскі Суд – Сп-ня Л. Рагуля, Сп-ня О. Грыцук і Сп. А. Пратас.

Зьезд закончыўся Беларускім Нацыянальным Гімнам.

– Р. Ж-Г.

# Парафіяльнае Сьвята ў Царкве Св. Юрыя ў Чыкага

Беларуская Праваслаўная Царква Сьв. Юрыя ў Чыкага 8 траўнў г.г. ладзіла сваё Парафіяльнае Сьвята.

Праграма сьвяткаваньня была апрацавана Царкоўным Камітэтам разам з Настаяцелям Прыходу а. Львом Астроўскім. На гэтую ўрачыстасьць былі запрошаны: Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіяпіскап Андрэй Кушчак, адміністратар Украінскай Кананічнай Царквы, Пратапрасьвіцер а. Сьвятаслаў Коўш, адміністратар Грэцка-Беларускай Праваслаўнай Царквы на Амэрыку й Канаду, Дыяканы а. Валюкевіч, а. Раймонд Сундленд (грэк) і іншае праваслаўнае духавенства.

У суботу, Настаяцель Прыходу а. Леў, Старшыня Царкоўнага Камітэту, Сп. І. Дылідык і Старшыня Сястрыцтва, Марыя Каленік, на чале групы парафіянаў, з кветкамі спаткалі Дастойнага Уладыку на лётнішчы Огера Філд. Уладыка спачатку заехаў да Царквы, а потым, усіх прысутных запрасіў да сябе на пачастунак Сп. Васіль Лутаўскі.

У нядзелю, а 9:30 раніцы, з хлебам й сольлю спаткалі Уладыку пры ўваходзе да Царквы.

Урачыстая Архірэйская Служба з удзелам а. Льва, а. Барыса, дыякана а. Раймонда й дасканалы хор прычыніліся да вельмі высокага настрою ўсіх прысутных.

Пропаведзь Уладыкі на тэму „Сіла Слова," была глыбока пачуцьцёвай. Пасьля Службы Божай усе прысутныя былі запрошаны на абед, прыгатаваны Сястрыцтвам.

Уладыка паблагаславіў сталы, хор прапяяў „Ойча наш" і абед разпачаўся. У гэты дзень Парафіяльнага Сьвята, адначасна сьвяткавалі й „Дзень Маці".

Рэфэрат на тэму „Дня Маці" прачытаў а. Леў, выступаў хор, а з дэкламацыяй выступіў Сп. Латушкін.

Гаспадаром абеду быў Сп. В. Пунтус. З прывітаньнямі выступалі прадстаўнікі: беларусаў, украінцаў і казакаў. Уладыка ў сваёй прамове заклікаў беларусаў прытрымоўвацца сваіх традыцый, перадаваць іх сваім нашчадкам і моладзі й быць вернымі канонам Сьв. Праваслаўнай Царквы.



*Зьлева направа: Прат. а. Барыс Заводзкі, Архіяпіскап Андрэй Кушчак, часовы настаяцель Парафіі Прат. а. Леў Астроўскі*

Ад беларускай Каталіцкай Царквы ў Чыкага быў запрошаны Архімандрыт а. Уладзімір Тарасэвіч з парафіянамі. А. Уладзімір у сваёй прамове шчыра вітаў праваслаўных беларусаў са Сьвятам, жадаў посьпеху ў працы рэлігійнай і нацыянальнай.

Па заканчэньні абеду малітву прачытаў а. Архімандрыд Уладзімір.

Талентавіты акардыяніст Сп. Язэп Мальа сваёю музыкаю вясяліў усіх прысутных падчас абеду. Прыход Сьв. Юрыя першы раз за 20 гадоў свайго існаваньня так урачыска адсьвяткаваў дзень свайго Патрона.

*Пятро Нягода*
*Сакратар Царкоўнай Управы*

Рэдакцыйная Калегія двумоўнай газэты „Беларускі Час" выказвае шчырую падзяку ўсім чытачом, якія ўрэгулявалі падпіску за мінулы й 1977-ы год.

РАЗЬВІТАНЬНЕ СА СП–М

# ТУЛЕЙКАМІ

У нядзелю 10га ліпеня г.г. Парафіяне Прыходу Св. Кірылы Тураўскага сьціпла, але шчыра, разьвіталіся са сваім рэгэнтам, Сп. М. Тулейкам ды зь Ягонай Спадарыняй Оляй Тулейко.

Сп. Тулейко кіраваў хорам Прыходу Св. Кірылы Тураўскага блізу ад самага пачатку набыцьця царкоўнага будынку на Атлянтык Эвэню. Спадарыня Оля Тулейко была актыўнай і ахвярнай парафіянкай Прыходу, належала да Сястрыцтва ды многа рабіла на карысьць сваёй Царквы.

Сп. М. Тулейко належыць да першых піянэраў – эмігрантаў, якія сваёй працай прычыніліся да разбудовы беларускага грамадзкага й рэлігійнага жыцьця ў З.Ш.А.

Шматгранная ягоная дзейнасьць, бязумоўна ўпішацца да гісторыі беларускай эміграцыі ў З.Ш.А. ды да гісторыі БАЗА, зь якою лучыла Сп. Тулейка шматгодняя праца.

Пасьля Божай Службы, Малебна й Многалецьця, а. Васіль добраславіў Спадарства Тулейкаў, жадаючы ім усяго найлепшага на новым мейсцы. Сястрыца Вера Заморская ўручыла падарункі: для Спадарыні Олі ад Сястрыцтва, а для Сп. М. Тулейкі ад харыстаў.

Пасьля гэтага, прысутныя Харысты, Сяброўкі-Сястрыцы, прысутныя парафіяне й госьці склалі свае пажаданьні, ды жадаючы многа ўдачаў на новым мейсцы, добрага адпачынку й добрага здароўя С-у Тулейкам. Разьвітваючыся з Тулейкамі чуліся галасы: „Не забывайцеся, заглядайце да нас час ад часу! Гэта-ж ня так ужо далёка будзе ад нас!"

А мне здавалася, што дзесь далёка, унутры кажнага застаўся якісь незразумелы, глухі смутак у хвіліны разьвітаньня са сваімі блізкімі, усёроўна, сяньня, як роднымі Тулейкамі...

*Парафіяльная Рада*

# ПАДЗЯКА

Гэтаю дарогаю выказваю вялікую падзяку Спадару Уладзімеру Сьліўцы, шчыраму й працавітаму Беларусу, ды як у нас кажуць, „Чалавеку зь вялікім сэрцам і залатымі рукамі", за зробленую мне й маім парафіянам неспадзеўку – дарагі Вялікодны падарунак: прыгожае аблачэньне, ды яшчэ раней пашыты, вельмі прыгожы, падрасьнік.

Я ніколі гэтага не забуду, ды буду маліцца за Вас і за ўсіх Вашых родных. Хай Міласьцівы Бог трымае Вас у сваёй ласцы.

*а. Максім*
*Настаяцель Прыходу Сьвятога Духа ў Дэтроіт*



*Уладзімер Сьліўка*

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018